# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №2 (163), 11 СТУДЗЕНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ




## ПАРАЗУМЕЦЦА З АЛЬТЭРНАТЫЎНЫМ...

**Існуе старасвецкая тэатральная показка, якая набыла ўжо пэўнасці меркавання: калі ролі "Гора ад розуму" спадара Грыбаедава "раскладаюцца" на трупу, дык трупа — вартая, прынамсі, таго, каб яе жыццё ў мастацтве заўважылі.**

**Як жа было не заўважыць "Гора ад розуму" Альтэрнатыўнага тэатра, ды яшчэ падчас бесперапынных аншлагаў, — другое драматычнай сцэны Беларусі — першае спраўджвалася яшчэ за савецкім часам у Магілёве (1963). Кажуць, што цяперашняе гора выяўляе і наш цяперашні розум: альбо гараваць, альбо?.. Сваё, і толькі сваё адметнае мастакоўскае разуменне прапануе рэжысёр Вітаўтас Грыгалюнас і акцёры Ганна Лягчылава, Святлана Нікіфарава, Ігар Забара, Артур Шуляк, Анатоль Голуб, Яўген Жураўкін, Алег Корчыкаў, Віктар Васільеў... Быў выпадак: у тэатры гасцяваў знаны, вядомы і шмат кім упадабаны Сяргей Юрскі. Гледзячы на ўсё, што дзеялася на сцэне, згадаў з радасцю сваю вядомую, знаную і шмат кім упадабаную ролю Чацкага ў колішнім ленінградскім БДТ. Згадаў і, усміхаючыся, сказаў, што цяпер яму застаецца толькі паразумецца з Альтэрнатыўным тэатрам, каб нанова гараваць (або не гараваць) з улюбёным персанажам... Хто яго ведае, можа, ён і не жартаваў?**

Здымкі Віктара **СТРАЛКОЎСКАГА**





## СІТУАЦЫЯ




Мабыць, вы яшчэ не забыліся на тую жудасную, не па-восеньску халодную ноч з 14 на 15 лістапада, калі літаральна за некалькі гадзін паветра зрабілася марозным, мокрыя вуліцы абледзянелі, і з чорнага начнога неба пасыпалася дробная снежная крупа... Канешне, не забыліся.

Менавіта ў гэтую, сапраўды д'ябальскую ноч "хуткая дапамога" прывезла мяне ў прыёмны пакой 2-й клінічнай бальніцы Мінска. Высокая тэмпература крывёй стукала ў скронях, дыхаць было амаль немагчыма з-за задушліва-пакутлівага кашля, што сціскаў горла...

Яшчэ праз паўгадзіны я зноў апынулася на вуліцы. У вушах гучалі рэзкія і абыякавыя словы, кінутыя мне проста ў твар жанчынай у белым халаце: "Удзень гуляюць, а ўначы ў іх раптам пнеўманія пачынаецца..." Дзякаваць Богу, у тую страшную раніцу, калі і грамадскі транспарт амаль не дзейнічаў, мне ўсё ж пашчасціла дабрацца дадому. У паўнепрытомным стане...

А за вакном злавалася завея і доўгая лістападаўская ноч ніяк не жадала саступіць месца змрочнай, стылай раніцы...

Пачыналася гэта амаль крымінальная гісторыя зусім звычайна, нават не цікава.

У канцы кастрычніка захварэў бранхітам мой сын. Хлопчык пачаў кашляць, у яго ўзнялася высокая тэмпература. Я, канешне, адразу выклікала педыятра, былі прызначаны ўколы і сын, на шчасце, даставткова хутка папраўся. Але вось я... Я пачала адчуваць нейкую незразумелую слабасць, цяжкі галаўны боль. Потым, праз некалькі дзён узняўся высокі жар, з'явіўся сухі кашаль, што амаль не перапыняўся. Участковы тэрапеўт, агледзеўшы мяне, паставіла звычайны ў гэтую пару года дыягназ — ВРЗ. Але прызначанае лячэнне не давала ніякага эфекту — наадварот, мне станавілася ўсё горш. Чырвоны слупок тэрмометра сягаў часам да адзнакі 40 градусаў...

Ноччу, калі тэмпература ў чарговы раз няўмольна папаўзла ўверх, маці выклікала "хуткую". Урач, убачыўшы мой амаль непрытомны стан, вымавіў адразу: "У стацыянар... Але прыміце аспірын, бо інакш не даедзеце".

У прыёмным пакоі было холадна. Сталага веку жанчына з непрыемным, калючым позіркам, глянуўшы на накіраванне "хуткай", сказала незадаволена: "Што вы, да раніцы не маглі пачакаць?" Заспаная лабарантка зрабіла мне рэнтгенаўскі здымак, потым экспрэс-аналіз крыві. Я чакала, седзячы на крэсле і адчуваючы, як тэмпература жаркай хваляй зноў падымаецца дзесьці ўсярэдзіне (мабыць, дзеянне аспірына скончылася). Праз некалькі хвілін, ледзь кінуўшы погляд на паўпрасушаны, амаль мокры здымак, усё тая ж жанчына ў белым халаце кінула мне: "Нічога ў вас няма, ніякай пнеўманіі! Дома трэба лячыцца! Куды паліклініка глядзіць? У бальніцы месца на ўсіх не хопіць! І чаго вы тут кашляеце на мяне, а яшчэ ў газеце працуеце..."

Гэтыя рэзкія словы, пазбаўленыя і ценю спачування, і дагэтуль гучаць у мяне ў вушах.

Выйшаўшы на вуліцу і зразумеўшы, што мне неабходна нейкім чынам дабрацца дахаты, я пасунулася на аўтобусны прыпынак, хаваючы твар ад жорсткага дыхання ветру. У тую сатанінскую ноч я не ведала яшчэ, што аўтобусы і тралейбусы не ходзяць, бо на вуліцах было небяспечна коўзка. Прастаяўшы на пустым прыпынку амаль гадзіну і ўжо не спадзеючыся, што калі-небудзь дабяруся дадому, усё ж такі дачакалася тралейбуса... Душыў нясцерпны кашаль, гарачынёй поўнілася, здавалася, кожная клетка...

Ужо падыходзячы да свайго дома, я паслізнулася на абледзянелым тратуары і... страціла прытомнасць. Здолела падняцца толькі праз некалькі хвілін і ўжо амаль на адной падсвядомасці дацягнулася да сваёй кватэры, зваліўшыся на рукі маці...

На гэтую ноч я не забудуся, напэўна, яшчэ доўга.

Але мне пашчасціла. Раніцай, калі здымак прасох, і стала відавочна, што ў мяне запаленне лёгкіх, месца ў пульманалагічным аддзяленні з вялікімі цяжкасцямі, але ўсё ж знайшлося. Лячэнне было распачатае літаральна ў першыя гадзіны. І высокаэфектыўныя антыбіётыкі ў вялікіх дозах зрабілі сваю "справу": ужо праз тры дні мне стала значна лягчэй, знікла ўдушша. А потым былі шматлікія фізіятэрапеўтычныя працэдуры, масаж і г.д. Пашчасціла мне яшчэ, мабыць, і таму, што лечачы ўрач Ірына Валынец аказалася вельмі далікатным і чулым чалавекам і не абыходзіла сваёй увагай ніводнай маёй скаргі ці просьбы. Некалькі разоў мне давялося звяртацца па параду да загадчыка аддзялення сп.Алейнікава і ў адказ — разуменне і шчырае жаданне дапамагчы.

Развітваючыся, Алег Валянцінавіч сказаў: "Напішыце пра нас... Вы ж бачылі, у якіх умовах даводзіцца працаваць. Безумоўна, адзін газетны артыкул не ў стане нешта істотна змяніць, але, можа, хоць што-небудзь зрушыцца з мёртвае кропкі..."

І праз некалькі дзён нашая сустрэча адбылася. У маленькім кабінеце, што адначасова з'яўляецца і ардынатарскай, мы доўга размаўлялі пра шматлікія праблемы аддзялення. Дакладней, гэта быў хутчэй маналог, чым размова. Гаворка ішла пра набалелае: пра тое, што катастрафічна не хапае плошчаў, і невялікае аддзяленне на 60 ложкаў не ў стане задаволіць патрэбы хворых, асабліва ў "сезон" прастудных захворванняў, пра тое, што апошнім часам усё вастрэй адчуваецца недахоп медыкаментаў, часам нават самых простых, пра тое, што матэрыяльныя ўмовы існавання ўрачоў адпавядаюць узроўню "ніжэй калена". Нечакана для сябе я даведалася, што будынку, дзе сёння месціцца клініка, — ужо 160 гадоў, што раней тут быў жаночы кляштар, а пасля расійска-французскай вайны 1812 года быў заснаваны прытулак для ветэранаў. Некалькі гадоў таму быў створаны план рэканструкцыі памяшканняў, што аджылі ўжо свой век і якімі ўжо немагчыма карыстацца; але ўзводзіць новы, сучасны будынак са шкла і бетону ў гістарычнай частцы горада побач з Траецкім прадмесцем палічылі немэтазгодным. Было вырашана выдзеліць пад бальніцу месца ў іншым раёне сталіцы, але... праекты так і засталіся на паперы з-за немагчымасці фінансаваць гэтую будоўлю. І дагэтуль у бальнічных палатах адначасова знаходзяцца па восем-дзевяць хворых, што пакутуюць ад бранхіяльнай астмы, пнеўманіі ды іншых захворванняў лёгкіх. А тыя, каму не хапіла месца, туляцца на канапе ў калідоры. Таму нагрузка на ўрачоў жудасная — больш за 20 хворых на кожнага. Мала хто вытрымлівае гэты "марафон"...

Але ці могуць няпростыя ўмовы працы, цяжкае існаванне нашай медыцыны ўвогуле стаць апраўданнем жорсткасці, абыякавасці, непрафесійных адносінаў медыкаў да сваіх непасрэдных абавязкаў? Не цяжка ўявіць сабе, што магло б здарыцца, калі тады, у тую жахлівую ноч на маім месцы апынуўся б які-небудзь стары ці проста чалавек з хворым сэрцам... Так, сённяшні агульны хаос, эканамічная нестабільнасць ва ўсіх галінах, уключаючы медыцыну, няўмольна адбіваецца і на нашым здароўі, якое, як вядома, не жалезнае. І пачынаецца ланцуговая рэакцыя: жорсткасць спараджае жорсткасць, няўвага да праблем медыкаў няўмольна выклікае (ці можа выклікаць) няўвагу медыкаў да нас — тых, хто хварэе. А гэта ўжо сур'ёзная пагроза. Для ўсіх.

**Дзіна КІРЫЛАВА**

**Ад рэдакцыі:**

Жыццё, напэўна, паклапацілася пра журналіста толькі ў адным, што яно, гаротнае, не забывае падкідваць яму час ад часу тэму для чарговага матэрыялу. Усё астатняе даводзіцца здабываць уласнымі высілкамі.

Мы перажываем і хвалюемся за сваіх герояў... Але і самі, бывае, трапляем у непрыемныя (мякка кажучы) сітуацыі. Як гэта, у прыватнасці, і здарылася з нашай Дзінай. Толькі ж мы не прывыклі на нешта скардзіцца і выносіць смецце з хаты, — людзям і без таго, маўляў, цяжка, а тут яшчэ і мы са сваімі хваробамі і бедамі. Так ужо павялося, што гэта да нас, журналістаў, спяшаюцца па параду ці дапамогу. Ідуць тыя, хто страціў апошнюю надзею, збіўшы ногі аб ганкі чыноўніцкіх кабінетаў, тыя, хто яшчэ верыць у сілу друкаванага слова...

А таму ў сувязі з гэтым мне хочацца прыгадаць выпадак са свайго ўласнага жыцця, які час ад часу ўсплывае ў памяці.

Вучыўся я тады на першым курсе журфака Белдзяржуніверсітэта. І вось аднойчы няўдала спускаўся па слізкіх прыступках падземнага перахода і падвярнуў нагу. Але ці прывыклі мы звяртаць увагу на такія дробязі? З кім не бывае? Падняўшыся, я пакульгаў далей. Ды і ў адну хвіліну паспеў забыцца на непрыемнасці.

Толькі ж усе пакуты пачаліся раніцай наступнага дня, калі прачнуўся ад нясцерпнага болю ў ступні. "А за акном злавалася завея"... Жывучы ў інтэрнаце ўсяго толькі некалькі месяцаў і амаль не ведаючы сталіцы, перасільваючы боль, патупаў у студэнцкую паліклініку, што на вуліцы Бабруйскай каля чыгуначнага вакзала. Толькі ж не ведаў тады, што маё "падарожжа" атрымаецца такім доўгім і пакутлівым. Але ні тэрапеўта, ні хірурга на месцы не аказалася, затое "на Бабруйскай" мяне абнадзеілі, што патрэбных спецыялістаў змагу адшукаць у 33-й студэнцкай паліклініцы, якая знаходзіцца недалёка ад Камароўскага рынку. І я туды...

Дарэмна праседзеўшы каля гадзіны, атрымаў ад нейкай чуллівай кабеты "карысную" параду з'ездзіць яшчэ ў адну паліклініку ля кінатэатра "Змена".

Паўгадзіны адняла дарога, амаль столькі ж — пошукі запаветнай медыцынскай установы. І нарэшце — прыёмны пакой і каля яго — чарга на дваццаць чалавек. "Мне б павязачку якую ды й параду карысную, чорт з ім, з бальнічным..." А ў адказ пачуў: "Вы да нашай паліклінікі не адносіцеся. Едзьце дадому. Набярыце 03 і тады мы і акажам вам дапамогу..."

Я прыслухаўся толькі да першай парады і накіраваўся пaціху назад. А з нагой я прамаяўся яшчэ каля месяца, ходзячы (чытай: кульгаючы), здаючы залікі і іспыты.

А высновы? Высновы зрабіце самі...

**Міхась РАВУЦКІ,**
**аддзел сацыяльных праблем "Культуры"**

## МІНУЛЫ ГОД — НОВЫ ГОД

**Змітрок ЧЫЖ, натурфілосаф:**

Мы часта, яўна ці няяўна, уяўляем сабе час як тунель, а нашае жыццё — як рух па тунелі. Ці існуе загадка мінулага года, калі мы скарыстаемся такім уяўленнем? Напэўна, існуе, бо тунель мае напрамак, і, як звычайна, нам трэба толькі ўдакладніць вектар руху: уверх або ўніз, уперад ці назад, направа ці налева — менавіта аб гэтым і спрачаюцца палітыкі. Мне здаецца, што мінулы год, падобны ў гэтым на папярэднія для беларускага народа, быў хутчэй, элементам "часу лабірынта" (нягледзячы на значныя, здавалася б, падзеі, прыпаўшыя на 1994 год). Бо прыродай лабірынта ёсць няпэўнасць, і не заўжды ён мае разгадку. Палохае не тое, што ў цэнтры лабірынта нас чакае Мінатаўр, а тое, што гэтага цэнтра няма, і Мінатаўр ужо не станецца нашай падказкай-збаўленнем. Лабірынт без цэнтра нараджае свае спосабы ўспрыняцця прасторы і часу, сваю культуру ідэнтычнасці, сваю логіку і свае хваробы. Знаходзячыся ў лабірынце, з яго ў прынцыпе немагчыма выйсці. Можна толькі змяніць ягоную сэнсавую структуру. Мінулы год і стаўся, на мой погляд, часам гэтай прынцыповай трансфармацыі.

**Алесь ВАТРУШКІН, літаратар:**

Мінулы год стаўся годам незвычайнага развіцця тэатра ўлады, раскрыцця і канструявання яе механікі на ўласна беларускай прасторы. Рэч не ў тым, што ўлада раскрыла свае таямніцы, хутчэй, яна даказала рэальную неабходнасць нашай цікаўнасці да яе, пры захаванні цалкам слушнага ўяўлення аб нязменнасці гістарычнай сутнасці ўлады. Адбывалася такая патрэбная нам зараз палітызацыя беларускага насельніцтва: улада паступова губляе трансцэндэнтальны характар (які яна мела падчас "улады ў Маскве", "улады адной ідэі", "боскай улады" і г.д.). Па сутнасці, нарэшце пачалося "распыленне" ўлады, ўводзіны яе ў структуры паўсядзённасці, нітаванне яе праблем з асабістымі інтарэсамі кожнага чалавека. Такім чынам, ўлада ківае на тое, што прынцып яе разгадваемасці існуе, і ён раскрываецца ў рэформе паўсядзённасці. Праз тэатралізацыю ўлада аддаляецца, робіцца "бачнай" — і робіць нас сваімі саўдзельнікамі.

**Лявон ШЫРЫН, музыкант, удзельнік гурта "Новае неба":**

Прабач, не маю жадання нічога казаць пра мінулы год, хіба што паспрабую штосьці сказаць пра наступны. Мне здаецца, што да канца года адбудуцца нейкія падзеі — мне зараз цяжка сказаць, якія менавіта, але яны карэнным чынам зменяць сітуацыю. Цяперашняе жыццё краіны і большасці людзей нагадвае нейкую гумовую тканіну, якая расцягваецца і гойдаецца паміж двума палюсамі — канструктыўным і дэструктыўным. Гэты падвешаны стан трываць далей ужо немагчыма. Спадзяюся, што гэты год пакажа людзям, што яны павінны займацца стварэннем, а не пераразмеркаваннем чужых рэчаў, думак і жыццяў. Людзі адчуюць, што ўсё на гэтым свеце мае свой канец і што трэба паспець зрабіць штосьці вартае — не ў тым сэнсе, каб ехаць кудысьці з таварам і зарабляць грошы, а каб пакінуць па сабе нейкі след на зямлі або небе.



*Гэта карціна В.Губарава называецца "Зато мы делаем ракеты!" Калісьці, за савецкім часам, усведамленне уласнай велічы (на якую, дарэчы, грамадзяне цывілізаваных краін глядзелі адначасова з жалем і страхам) замяняла нам усё — нармальную працу і прыстойны заробак; побыт, варты чалавека, і тое, што называецца Правамі чалавека.*

*Цяпер, мы ўжо не "делаем ракеты", жыццё прымусіла нас быць бліжэй да зямлі, сваёй зямлі — вырашаць свае, а не чужыя праблемы. І дзякуй Богу!*

**Ірына ГУЛЬНЁВА, студэнтка:**

У гэты год я прыйшла поўнай жабрачкай. У сэнсе фінансаў. І ці хіба я адна такая? Год Сабакі сапраўды занадта ўжо кусачым стаўся для ўсіх нас. Але ў гэты год я прыйшла багатай на новых сяброў, з новымі ўражаннямі. Бо веру: не хлебам адным жыве чалавек. І ўсё роўна хочацца спадзявацца, што новы, 95-ы год, хоць ён і год Свінні, не павернецца да нас свінячай пысай. І мы не зарохкаем з голаду.

**Сяргей АСІПЦОЎ, камерсант:**

Ізноў, у які ўжо раз, прыйшоў Новы год. На працягу апошніх тыдня-двух самай папулярнай фразай была: як сустрэнеш Новы год, так яго і правядзеш. Я сам ужо паўтарыў яе некалькі разоў і думаю, досыць: як замова ад непрыемнасцей, гэтае выказванне ўсё роўна не спрацоўвае, як і, дарэчы, іншыя прыкметы. Час зараз такі. І калі казаць шчыра, то ўсё роўна я не сустрэў свята так, як гэтага вымагае грандыёзнасць падзеі. З чым я прыйшоў у 95-ы? З тым, што вы самі ведаеце, плюс запалітызаваныя мазгі... Цікава, ці існуе ў нашай суверэннай дзяржаве чалавек, які ў гэтую ноч не ўзгадаў ніводнага разу пра палітыку і не выказаўся ні разу наконт "бягучага моманту"?

А ўвогуле, якая розніца, хто ды пра што размаўляў за чаркай? Хто песімістычна думае, што ўжо надышлі апошнія часы, — не бярыце да галавы. Зараз неабходна ўсвядоміць наступнае: новы год — гэта "ўсур'ёз і надоўга".

**Запісалі на паперку Юрась БАРЫСЕВІЧ і Міхась РАВУЦКІ**

КАНТРАМАРКА



# КАЦЯ ПЛЮС ВЕНЯ...

Далёка не кожны чалавек, што прыходзіць на балетны спектакль, дасведчаны ў тонкасцях гэтага мастацтва. Але чароўнасць класічнага балета, ягонае ўздзеянне на пачуцці, думкі, уяўленне чалавека не маюць межаў. Шлях артыста балета цудоўны і бясконца цяжкі. Пачынаецца ён у харэаграфічных вучэльнях, дзе педагогі-харэографы з велізарнай колькасці дзяцей адбіраюць толькі тых, хто, на іхні погляд, мае здольнасці будучых танцоўшчыкаў.

У дзесяцігадовых Каці Фадзеевай і Вені Захарава мары танцаваць не было. Яе, доўгавалосую крохкую дзяўчынку, прывяла за руку ў 1978 годзе ў Маскоўскую харэаграфічную вучэльню бабуля. Ён, сімпатычны хлапчук, на год пазней разам з маці прыйшоў паступаць у вучэльню ў Мінску. Чымсьці спадабаліся педагогам гэтыя, не ведаўшыя тады адно аб адным, дзяўчынка ды хлопчык, і пачаліся для іх гады вучобы — спасціжэнне балетнай прафесіі, раскрыццё таямніц мастацтва класічнага танца.

Штораніцы станавіліся яны да балетнага станка і працавалі, працавалі да сёмага поту, да болю ў мышцах, да збітых пальцаў ног, да поўнай знямогі. І, магчыма, вельмі хутка дзеці не вытрымалі б такіх нагрузак, але... Нарэшце штосьці атрымалася — удала выкананы жэст, першая пахвала педагога, першы маленькі поспех і адчуванне дзіўнай трапяткой радасці. Усё. Гэта быў рубеж. Няхай тысячу разоў цяжка і балюча, няхай пот бяжыць ручаінамі, няхай галаву кружыць ад стомы, але гэтага варта тое, не параўнальнае ні з чым пачуццё. Яны аддалі сябе балету, ён стаўся іхнім лёсам.

Праз восем гадоў навучанне скончылася. Веня і Каця сталіся артыстамі Беларускага Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. На гэтай сцэне прадоўжылася іхняя вучоба, іхні няспынны, праз гады, урок. Працу ў кардэбалеце гэтыя маладыя артысты лічаць неабходным этапам на шляху да вяршыняў балетнага мастацтва. Многія артысты так і танцуюць у кардэбалеце на працягу ўсяго жыцця. Адных гэта цалкам задавальняе, іншым папросту не хапае чагосьці такога, што дазволіла б ім на мове танца перадаць ганарлівую стойкасць пачуццяў Фрыгіі, гераічны дух Спартака, імкненні Кармэн да свабоды, усепаглынаючую жарсць Хазэ, заразлівую весялосць Кітры і старасвецкую галантнасць Дон-Кіхота. На шчасце, Кацю і Веню, апрача вялікай любові да сваёй справы, вылучаюць упартасць, працалюбства, неадольнае імкненне да спасціжэння майстэрства, што і дазволіла ім перайсці на вышэйшы творчы ўзровень.

Сёння Кацярына Фадзеева і Веніямін Захараў танцуюць практычна ўсе вядучыя партыі ў тэатры, яны сталіся лаўрэатамі многіх балетных конкурсаў, сёлета ім было нададзена званне заслужаных артыстаў рэспублікі. Яны — прыгожы дуэт і на сцэне, і ў жыцці, што для іх, увогуле кажучы, не адасабляецца адно ад аднаго. Балет для іх само жыццё. Прастора танца атачае гэтую пару паўсюль — на сцэне, калі яны дораць свята гледачам; у метро, калі вяртаюцца дадому з думкай аб Адэце і Зігфрыдзе або Жызелі і Альберце; дома, калі дзеляцца адно з адным радасцямі і гаротамі, раяцца, разам шукаюць штосьці новае. Амаль увесь свой час Каця і Веня бавяць у тэатры. Святы, прэм'еры, адкрыццё і закрыццё сезона, дні нараджэння святкуюцца тут, у грымёрках разам з сябрамі-танцоўшчыкамі. Размовы на балетныя тэмы невычэрпныя, цягнуцца дапазна. А з раніцы — ізноў рэпетыцыі, заняткі, спектакль. Сапраўды, тэатр — другі дом.



Зусім нядаўна ў маладой сям'і з'явіўся і першы: яны атрымалі кватэру. Цяпер яны з радасцю запрашаюць да сябе ў госці сяброў, большасць якіх — артысты балета. Каця, дарэчы, цудоўнае гатуе. Яна вельмі хоча навучыцца пекчы пірагі, такія ж смачныя і прыгожыя, якія пякуць яе маці, бабуля і віртуозна пякла прабабуля. Разбураючы некаторыя ўстойлівыя ўяўленні аб жыцці артыстаў балета, Каця і Веня ў ежы сябе зусім не абмяжоўваюць. Кацюша тлумачыць гэта так: "Праца адымае безліч сіл, энергіі, нерваў. Пасля кожнага спектакля страчваеш як мінімум пару кілаграмаў, так што праблемы з залішняй вагой у нас няма". Мімавольнае захапленне і павагу выклікае яшчэ тое, што ў гэтай чароўнай пары ёсць сын Ванечка, яму яшчэ няма і году. Не кожная балерына адважваецца на такі ўчынак, як нараджэнне дзіцяці, яшчэ менш тых, хто можа пасля гэтага вярнуць былую форму. Каця перакканана: "Вядома, цяжка мець дзіця — не толькі балерыне, а ўсялякай жанчыне. Малое патрабуе шмат часу, догляду, увагі. Менавіта таму Ванечка, пакуль зусім маленькі, будзе жыць у маёй маці у Цюмені. Што ж датычыць формы, то мы, балерыны, настолькі жылістыя і цягавітыя, што вярнуцца ў былую форму не так ужо і цяжка. Канешне, для гэтага патрэбны пэўныя высілкі".

Сама Каця хутка наганяе прапушчанае: на гастролях у Гішпаніі станцавала прэм'еру "Жызелі", цяпер ізноў на гастролях тамсама, а неўзабаве дуэт Захараў — Фадзеева будзе ўдзельнічаць у канцэрце "Зоркі балета" ў Францыі.

...Рэпетыцыйная зала. Гучыць музыка Мінкуса да балета "Баядэрка". Пад гукі раяля танцуюць двое — К.Фадзеева і В.Захараў. За імі ўважліва сочыць педагог-рэпетытар Уран Акперавіч Азімаў. Асобныя рухі, прыёмы выканання адпрацоўваюцца, паўтараюцца яшчэ і яшчэ раз, набываюць лёгкасць і натуральнасць. Імклівасць піруэтаў, палётнасць скачкоў змяняюць плаўнасць арабескаў, паветранасць падтрымак. Са спалучэння гукаў і рухаў нараджаецца танец. Усё гэта вельмі прыгожа, паэтычна і музычна, хаця ідзе яшчэ толькі рэпетыцыя, і замест тэатральных касцюмаў артысты апрануты ў працоўнае трыко, на тварах няма грыму, і танец разгортваецца на фоне балетнага станка. Але ў ім ужо прысутнічае душа, перажыванні Салора і Нікіі, таму танец Захарава і Фадзеевай — жывы. І ўвечары, калі з апошнімі акордамі музыкі апускаецца заслона, гледачы сваімі апладысментамі аддаюць артыстам даніну павагі і захаплення. Яны прыходзяць са словамі ўдзячнасці за кулісы. І тады душа танцоўшчыка трапеча ад радасці, сэрца замірае ад хвалявання і хочацца зноў танцаваць. Яшчэ і яшчэ...

**Гелія АНТОНАВА**
**Фота Жаны МАЁРАВАЙ**



ПАЎСТАННЕ (1794 — 1994)

сакавіка таго ж года камісія зацвердзіла эскізы. У красавіку-маі кракаўская серыя ўжо паступіла ў паштовае абарачэнне. Серыя цікавая для беларускіх філатэлістаў яшчэ і тым, што на адной з марак паказаны кракаўскі помнік, прысвечаны Грунвальдскай бітве. Ён, дарэчы, таксама быў разбураны фашыстамі,..

Нельга абысці ўвагаю і серыю польскай пошты 1954 года, прысвечаную 160-годдзю паўстання. На адной з марак паказаны фрагмент манументальнага палатна Войцеха Косака і Яна Стыкі — панарама "Рацлавічэ", якая распавядае пра перамогу касінераў над войскамі генерала Ф.Дзянісава каля вёскі Рацлавічы (4 красавіка 1794 года). Над карцінаю абодва мастакі працавалі амаль тры гады. Сёння яна экспануецца ў Нацыянальным музеі ў г.Вроцлаве, куды была перададзена пасля вайны з Львова.

На другой марцы — цэнтральны фрагмент вядомай карціны Яна Матэйкі "Касцюшка пад Рацлавічамі", створаны ім у 1888 годзе. Арыгінал гэтага сусветна вядомага палатна знаходзіцца ў Кракаўскім нацыянальным музеі. Яшчэ адна марка з гэтай серыі зафіксавала адзін з эпізодаў паўстання, які адбыўся 17 кастрычніка 1794 года ў Варшаве.

У 1775 — 1783 гадах Т.Касцюшка браў удзел у вайне за незалежнасць ЗША. І гэты перыяд ягонага жыцця знайшоў свой адбітак у філатэліі. У 1975 годзе ў Польшчы выйшла серыя марак і блок у гонар 200-годдзя незалежнасці ЗША. У серыі ёсць марка з Касцюшкам на фоне групы валанцёраў амерыканскай арміі, а на блоку — ягоны ж партрэт на фоне дзяржаўнага сцяга амерыканскіх Штатаў. Побач надпіс: "За нашу і вашу свабоду". У 1979 годзе з'яўляецца чарговая марка, прысвечаная Касцюшку. На гэты раз на марцы адлюстраваны помнік — дар польскага народа амерыканскаму ў гонар 200-годдзя незалежнасці Амерыкі. Помнік устаноўлены ў Філадэльфіі. Гэта не адзіны помнік у ЗША, пастаўлены нашаму земляку. Памяць пра яго ўвекавечана ў скульптурных творах у чатырох амерыканскіх гарадах. Адзін з іх у горадзе Саратога. У бітве пад гэтым горадам праявіўся талент Касцюшкі-палкаводца. Помнік знайшоў адлюстраванне на марцы ЗША, выдадзенай яшчэ ў 1933 годзе. На ёй кароткі надпіс: "Касцюшка. 1783 — 1933". Адзначаючы 200-годдзе бітвы пад Саратогай, польская пошта праводзіла ў Кракаве спецыяльнае гашэнне. На малюнку штэмпеля — партрэт Касцюшкі на фоне карты ЗША.




Спецыяльных штэмпеляў, прысвечаных Касцюшку або звязаных з яго імем, у Польшчы рабілася багата. І ў розных гарадах. Гэта і штэмпелі ў гонар 25-годдзя стварэння першай дывізіі Войска Польскага, названага імем Касцюшкі, ды шэраг іншых штэмпеляў, адзначаючых падзеі і факты жыцця і дзейнасці генерала. Імя Касцюшкі ў кагорце народных герояў Польшчы займае, бадай, першае месца. Яно ў назвах школ, ліцэяў, шахтаў, прадпрыемстваў, вуліц, караблёў... Шмат якія прадпрыемствы або ўстановы, святкуючы тыя ці іншыя юбілеі ў сваёй гісторыі, праводзілі спецыяльныя гашэнні. Напрыклад — 50-годдзе шахты каменнай солі імя Касцюшкі ў г.Вапно, 50-годдзе гімназіі імя Касцюшкі ў г.Мехаў, 30-годдзе Політэхнічнага інстытута імя Касцюшкі ў Кракаве, 175-годдзе металургічнага завода імя Касцюшкі ў г.Хожуў...

Да юбілеяў розных падзей паўстання 1794 года і жыцця Т.Касцюшкі Саюз польскіх філатэлістаў не адзін раз наладжваў філатэлісцкія выставы — там можна было пабачыць цікавыя спецыяльныя штэмпелі з імем героя. Не ўсім вядома, што і ў далёкай Аўстраліі згадваецца імя нашага славутага земляка. Яно на карце гэтае краіны. У 40-х гадах XIX стагоддзя польскі геолаг, падарожнік і даследчык Аўстраліі П.Стралецкі назваў імем Касцюшкі самы высокі пік Вялікага Водападзельнага хрыбта. Вышэйшая кропка Аўстраліі — гара Касцюшкі — мае 2230 метраў над узроўнем мора (на поўдзень ад Канберы). У 70-я гады нашага стагоддзя пошта Аўстраліі выпусціла канверт "Першага дня" і выкарыстала спецыяльны штэмпель, дзе ў тэксце ёсць і назва гары Касцюшкі...

Яшчэ колькі выпускаў пошты, звязаных з імем Касцюшкі.




У перадваенныя гады на цеплаходзе "Касцюшка" працавала паштовае аддзяленне, якое ўжывала арыгінальны паштовы штэмпель з малюнкам і назваю парахода.

У час Другой сусветнай вайны ў Германіі ў некалькіх лагерах знаходзіліся палонныя польскія афіцэры. У 1942 — 1944 гадах у чатырох з іх арганізавалася лагерная пошта, былі выпушчаны маркі. У 1944 годзе, напрыклад, у лагеры II-с-Вольдэнберг з'явілася марка да 150-годдзя паўстання 1794 года. Лагерны мастак Е.Піхель намаляваў на марцы гурт касінераў (узброеных косамі паўстанцаў). Уверсе стаяла дата: "24.III.1794". З ліпеня 1943-га па сакавік 1944-га ў гэтым лагеры была выдадзена серыя марак пад назвай "Гетманы". Адна з марак прысвячалася Касцюшку. Той жа мастак Е.Піхель змясціў партрэт кіраўніка паўстання ў арнаменце з дубовых лістоў і зброі паўстанцаў. Пад партрэтам подпіс: "Т.Касцюшка. 1746 — 1817".

У тым жа сорак чацвёртым у іншым лагеры ваеннапалонных (II-D Грос-Борн) лагерныя мастакі М.Несцяровіч і В.Булацкі стварылі серыю марак "Змагары за свабоду". Адна з іх прысвечана Т.Касцюшку...

Польская пошта шмат разоў выпускала маркі, канверты, паштовыя карткі і спецыяльныя штэмпелі, прысвечаныя і іншым удзельнікам паўстання 1794 года. На іх — партрэты, помнікі, прысвечаныя Г.Калантаю, Я.Каменскаму, Я.Дамброўскаму, Ю.Панятоўскаму.

У 1956 годзе ў серыі марак "Помнікі Варшавы" паступіла ў абарачэнне мініяцюра, прысвечаная Ю.Панятоўскаму, брату апошняга караля Рэчы Паспалітай. На марцы — помнік генералу-паўстанцу, пазней маршалу напалеонаўскіх войск, створаны ў 1830 годзе скульптарам-датчанінам Бертэлем Торвальдсэнам.

У 1944 годзе фашысты разбурылі помнік, у 1952-м ён быў адноўлены на сродкі жыхароў сталіцы паводле мадэлі, якая цудам захавалася ў Капенгагене. Лёс гэтага помніка няпросты. Доўгі час ён стаяў у Гомелі. Пасля Рыжскага дагавору савецкай Расіі і Польшчы ў 1922 годзе помнік быў дэманціраваны і перавезены ў Польшчу.

Думаецца, хоць такі, на жаль, беглы пералік паштовых выпускаў, звязаных з імем кіраўніка Вызвольнага паўстання і падзеямі самога паўстання, узбагаціць чытача пэўнымі гісторыка-мастацкімі звесткамі. Пра філатэлістаў не кажу — не дзеля іх наша сённяшняя гаворка! У той жа час да прыкрасці шкада, што пошта Беларусі ігнаруе гісторыю краіны, не ведае, не шануе сваіх герояў і забывае адзначаць належным чынам даты, якія не варта нікому забываць.

**Леў КОЛАСАЎ,**
**намеснік старшыні Беларускага Саюза філатэлістаў**

ПРАЗ ГАДЫ

Аляксей АНІШЧЫК

# НАВАГРАДСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ

*(Працяг. Пачатак у № 49 за 1994г. і № 1 за г.г.)*

## ПЕДАГОГІ

**Аляксандар ШУМСКІ** — прыехаў у Навагрздак з Ятры (каля Наваельні). Нарадзіўся ў 1869 годзе. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў шэсць гадоў у пачатковай школе, у Баранавіцкай чыгуначнай, у школе дырэкцыі Палескай чыгункі ў Вільні. Ад 1919 года — у Навагрздскай гімназіі. Выкладаў беларускую мову, геаграфію, арыфметыку, спевы. На працягу ўсіх гадоў працы ў гімназіі вёў пратаколы пасяджэнняў педагагічнай рады. Быў сумленным і сціплым працаўніком, неблагім педагогам. Пад яго кіраўніцтвам сфармаваўся і нядрэнна спяваў школьны хор. Пад канец свайго нялёгкага жыцця збудаваў сабе маленькую хатку, у якой дажываў век з незамужняю дачкою. Памёр у 1930 годзе. Частка яго школьных пратаколаў захавалася ў Міхася Петрыкевіча, які перадаў іх у Дзятлаўскі (Петрыкевічам арганізаваны) гарадскі музей.

**Яўген МІЛОЎ** — кваліфікаваны і таленавіты, на рэдкасць сумленны і працавіты педагог. Расеец. Скончыў матэматычны факультэт Казанскага універсітэта перад самай вайною ў 1914 годзе. Мабілізаваны ў армію, прабыў на фронце да сярэдзіны 1917 года. Ад пачатку 1918 да канца 1919 г. выкладаў матэматыку, фізіку і хімію ў сярэдняй тэхнічнай школе ў Бабруйску. Ад 1920 г. як афіцэр 3-й арміі генерала Врангеля быў інтэрніраваны і знаходзіўся на тэрыторыі Польшчы. Ад верасня 1923 г. да канца жыцця працаваў выкладчыкам матэматыкі, фізікі, хіміі і рысункаў у Навагрздскай Беларускай Гімназіі. Нягледзячы на слабое засваенне беларускай мовы, карыстаўся сярод настаўнікаў, вучняў і бацькоў павагаю і аўтарытэтам. Шырокі дыяпазон і глыбіня ведаў, рэдкая сумленнасць і акуратнасць, шчырае стаўленне да ўсіх калегаў і працавітасць здабылі яму вялікую пашану і добрую памяць у тых, хто яго ведаў. Няўчасная смерць выклікала сапраўдны смутак школьнай моладзі і педагогаў. Памёр у 1932 годзе, пакінуўшы добрыя і трывалыя сляды ў нашых чулых юначых душах. Пахаваны ў Навагрздку.

**Ксенія БАЛАНДОВІЧ** — выкладчыца гісторыі. Нарадзілася ў 1894 годзе ў Менску. Бацька быў ляснічым. Частае спатканне з лесам, з разнастайным птаствам, ляснымі ласункамі і багаццем сфармавалі добрую натуру. Працуючы настаўніцай у цяжкіх умовах, пры жабрацкай аплаце, Баландовіч ніколі не траціла гумару і аптымізму. Ніхто ніколі не бачыў яе сумнай або прыгнечанай. Неспатольная вера ў будучыню, у лепшае былі з ёю, здаецца, да апошніх дзён...

Прыроджаны педагог, яна любіла дзяцей, карысталася іх пашанай і ўзаемнай любоўю. Яе філасофскае стаўленне да жыцця і нязменны аптымізм няўхільна перадаваліся іншым. Смутак і туга не мелі доступу ў яе таварыства. Добры і ўмела стасаваны ўплыў настаўніцы ў многіх вучняў застаўся на ўсё жыццё. Працавала ў гімназіі да 1925 года. Памерла ў Вільні ў 1974 годзе. Пахавана побач з Янам Цеханоўскім на праваслаўных могілках на Ліпаўцы.

**Галіна ЯМЯЛКОЎСКАЯ** (у дзявоцтве Шэмбэлюўна) нарадзілася ў Познані. Ад 1922 г. працавала ў Навагрздскай польскай гімназіі (дзяржаўнага статусу). Ад 1928 па 1931 год выкладала польскую мову і літаратуру ў Навагрздскай Беларускай Гімназіі. Полька па нацыянальнасці, уважлівасцю і тактоўнасцю здабыла аўтарытэт і любоў навучэнцаў. Здольны педагог, яна за ўсе гады працы ў нашай школе ні разу не павысіла голасу, не сказала абразлівага слова. Дысцыпліна ў часе яе лекцыяў была ідэальнай. Дабрачынны яе ўплыў глыбока западаў у нашы дзіцячыя сэрцы, і мы стараліся з усіх сіл, каб яе не засмуціць, каб заслужыць пахвалу, добрую цёплую ўсмешку.

Цераз пару гадоў выйшла замуж і ў 1939 г. выехала ў Ліду. Калі я вяртаўся з Катавіц да бацькоў і выпадкова яе сустрэў, настаўніца дала мне свой шалік, каб не прастудзіўся...

**Зофія БАРАНОВІЧ** — выкладчыца польскай мовы. Працавала ў нашай гімназіі 10 гадоў (1921 — 1931 гг.). Старанная і сумленная, сярэдніх здольнасцяў настаўніца, да канца свае працы ў нашай школе не змагла здабыць нашай сімпатыі і належнага аўтарытэту. Часткова і таму, што не старалася (як гэта рабіў Мілоў) карыстацца беларускай мовай. Пры шырокай інвазіі


Беларуская Коэдукацыйная Гімназія

Пасьведчаньне.

польскіх асаднікаў і каланізатарскай палітыцы польскага ўрада гэта выклікала рэзананс і негатыўную рэакцыю ў юных сэрцах. Неаднаразовае заступніцтва дырэктара і яго спробы дапамагчы гэтай добрай польскай дзяўчыне не далі належных вынікаў.

**Ніна ТРУСЕВІЧ** — актыўная і здольная настаўніца. Выкладала французскую мову ад пачатку існавання школы да 1923 г. Пераехала ў Баранавічы, дзе атрымала лепшыя жыццёвыя варункі. З жалем развітваліся з ёю педагогі і навучэнцы. Трусевіч была не толькі добрым педагогам, але добрым і дзейным чалавекам. Яна больш чым іншыя разумела вялікую праўду, што нават самая цудоўная ідэя без чыну — мёртвая.

**Жазэфіна ЗАПОЛЬСКАЯ** — прыроджаная француженка. Працавала да 1928 года, пасля смерці мужа (мелі сваю хату каля Свіцязі) выехала ў Францыю. Большага следу па сабе не пакінула.

**Вольга РУСАК** — настаўніца нямецкай мовы. Добры спецыяліст і аўтарытэтны педагог. Карысталася нязменнай пашанай педагогаў і вучняў.

Магла быць прыкладам тыповага беларускага інтэлігента: заўсёды ўважлівая, добразычлівая, стрыманая і актыўная ў грамадскай дзейнасці. Адзначалася акуратнасцю і дысцыплінаванасцю (чаго, на жаль, часта не стае многім з нас). Пасля закрыцця гімназіі, у часе ваеннай акупацыі, выкладала нямецкую мову ў Навагрздскай настаўніцкай семінарыі.

**Гіта ГЕЦАВА** — ад пачатку існавання школы выкладала нямецкую мову. Была актыўным педагогам, адзначалася грамадскай дзейнасцю і мела нядрэнныя вынікі ў навучанні. Працавала да 1923 года.

**Наталля ОРСА** (дзявочае прозвішча Сазановіч) — працавала адначасна з мужам (доктарам Орса) пад канец існавання гімназіі. У 1939 годзе, калі Навагрздская гімназія адрадзілася, спадарыня Наталля ізноў актыўна ўключылася ў педагагічную дзейнасць. Выкладала беларускую мову і літаратуру. Спецыяльнасць таксама атрымала ў Празе. Калі ў часе акупацыі пачалі працаваць беларускія школы, Наталля Орса была адна з першых, хто актыўна ўключыўся ў навучанне новага пакалення. Бадай, не трэба дабаўляць, што гэта была праца патрыятычная і ахвярная, заўсёды накіраваная на дабро і адраджэнне нацыі. Напэўна, ніхто не ўсумніцца, што Наталля Орса зрабіла немалы ўнёсак у вялікую ўсенародную справу. Эміграваала і памерла ў ЗША.

Нядоўга працавалі ў Навагрздскай Беларускай Гімназіі альбо не пакінулі больш значнага следу:

**Леў ЛЬВОЎ** — выкладчык фізікі, хіміі і прыроды. Працаваў ад 1921 па 1923 год.

**Мікалай НАВУМОВІЧ** — настаўнік малодшых класаў, 1940 год.

**Глікерыя МАЦЯЕЎСКАЯ** — выкладчыца нямецкай мовы. Працавала ад пачатку да 1926 года.

**МАЙХШЫЦКІ і МАТЫЯШКА** — настаўнікі польскай гімназіі, адначасна ў 1926 г. выкладалі польскую мову і гісторыю Польшчы ў нашай школе. Таксама **ЛЯВІЦКАЯ і НОВАВЕЙСКАЯ.**

**ГЭМБІЦКІ** — выкладчык батанікі і заалогіі ў першыя гады існавання гімназіі.

**КАЛЯДЗІНСКАЯ** — у першыя гады выкладала ручныя работы.

**Віктар ГАНСЯРОЎСКІ** — выкладчык лацінскай мовы.

**САМАЙЛОВІЧ** — кіраваў школьным хорам. Адначасна быў рэгентам саборнай царквы.

**БУТУЗАВА** — арганізавала ў дваццатых гадах балетную групу і паспяхова ёю кіравала (выступленні на канцэртах).



**АГАФОНАЎ** — выкладчык рысункаў на працягу двух гадоў.

**Інжынер ЛАЎСКІ** — вярнуўся з Прагі адначасна з А.Орсай і працаваў некалькі апошніх гадоў выкладчыкам матэматычных прадметаў. Меў Вячаслаў Лаўскі шырока дэмакратычныя погляды і зрабіў значны ўплыў на школьную моладзь.

**ПЯЦЭВІЧ, АКУЛІЧ і АМЕЛЬЯНОВІЧ** — былі арганізатарамі школы і працавалі ў ёй на самым пачатку яе існавання. Таксама **ШАХ, КАНСТАНЦІНОЎСКАЯ, ЗАБАЎСКІ.**

З духаўнікоў **БАБКОЎСКІ, КЛЯЕЎСКІ, ЛІДСКІ, ГАРБАЦЭВІЧ** у гімназіі працавалі на працягу некалькіх гадоў. У апошнія гады быў найбольш папулярны **Мікалай ГАРБАЦЭВІЧ**, які здолеў вывучыць беларускую мову і паўсюдна ёю карыстаўся. Усім вядомы быў яго дэмакратызм. Немагчыма абмінуць каларытную фігуру і ролю нязменнага вартаўніка школы **Федзі КОРШУНА**. Невысокага росту, каржакаваты, з невялікай бародкаю і крыху ўскалмачанымі валасамі, ён нагадваў фацэтнага салдата — з мяцёлкаю ў руцэ замест стрэльбы. Жывучы ў загараднай вёсачцы Грабніках, ён і яго маленькая жонка Юля заўсёды былі першымі ў школе і выходзілі апошнімі. Хоць жылі яны вельмі бедна, але рукі мелі "чыстыя" — ніколі нічога з будынку не прападала. 50-гадовы Федзя адзін на ўсю гімназію меў права (няпісанае!) прымяняць да непаслухмяных шкоднікаў фізічныя меры ўздзеяння. Практыка паказала, гэта былі меры надзейныя і заўсёды эфектыўныя. Аднак, паколькі Коршун драў за вушы альбо сцёбаў венікам заслужана, мы на яго не гневаліся і нікому не скардзіліся. Фактычная ўлада і аўтарытэт Федзі маглі раўняцца хіба толькі з дырэктарскімі...

* * *

Наколькі правільныя характарыстыкі педагогаў, у пэўнай меры пакажуць змешчаныя ніжэй успаміны былых навучэнцаў гімназіі. Думаю, што з далёкай перспектывы часу ды многіх гутарак з пажылымі сёння былымі вучнямі нашай школы, мне ўсё ж такі ўдалося стварыць правільныя вобразы і характары нашых педагогаў, людзей сапраўды ахвярных і адданых ідэям адраджэння нацыі.

## ВУЧНІ

Пасля кароткага засілля школы гарадскою моладдзю хутка пасыпаліся заявы ад сялян навакольных вёсак і мястэчак. А пасля таго як кураторыюм забараніла ў 1923 годзе прымаць дзяцей яўрэяў, гімназія паводле нацыянальнага складу стала амаль на сто працэнтаў беларускай. Акрамя дзяцей з Навагрздка і блізкіх вёсак нямала было вучняў з Любчы, Турца, Ярэміч, Ляхавіч, Дзятлава, Слоніма, Міра, Баранавіч, Ліды. Паколькі значны працэнт навучэнцаў паходзіў ад незаможных і бедных сялян, паўстала неабходнасць арганізацыі інтэрнатаў (бурсаў) для дзяцей з аддаленых пунктаў.

У першыя гады існавання школа не мела магчымасці наняць памяшканне пад інтэрнат. Аднак праз нейкі час хлапцоўская бурса была арганізавана. Спярша на Валяўскай вуліцы (кіраўнік Ян Цеханоўскі), пасля ў Брацянцы, Пярэсецы, пазней на Паштовай у доме Ваўчка (кіраўнік М.Чатырка), пад канец існавання школы — на Сянежыцкай вуліцы, за Сакольскім (спартовым) пляцам. У асобныя гады бурсай кіравалі Драздовіч, Лаўскі, Данілевіч і іншыя.

Харчаваліся вучні (бурсакі) сваімі прадуктамі. Штомесяц трэба было здаць па два пуды бульбы, паўтара пуда жытняй мукі, 10 фунтаў круп, 10 фунтаў пшанічнай (пытляванай) мукі, 2 кілаграмы сала і 3 злотыя на цукар і гарбату. Камітэт са старэйшых вучняў (выбраны самімі бурсакамі) кантраляваў здачу і расход прадуктаў. Зусім бедных кармілі бясплатна.

Навучэнцам пазнейшых гадоў пашанцавала. Закончыўшы універсітэт у Празе, вярнуліся ў родную школу доктар Аляксандар Орса, інжынер Лаўскі, Ігнат Сланеўскі, Вольга Русак, Насця Гаўрылічанка (Сланеўская) і іншыя. Яны сталі працаваць хто ў гімназіі, хто ў бурсе і сваімі прагрэсіўнымі ведамі і поглядамі шчодра дзяліліся з навучэнцамі. Іх уплыў быў вельмі дабратворны, але яны не змаглі ўратаваць гімназію ад ліквідацыі...

*На здымках:* пасведчанне аб заканчэнні гімназіі за 1931г.; настаўнікі і вучні.

*(Далей будзе)*

# ЗАДУМ БЫЛО ШМАТ...

31 снежня мінулага года споўнілася б 50 гадоў Васілю Паўлавічу Куліку. Гэта быў таленавіты чалавек, які добра ведаў і любіў мастацтва, наогул усё прыгожае. Не маючы прафесійнай адукацыі, сам маляваў добрыя карціны і сябраваў са многімі мастакамі і навукоўцамі, якія высока цанілі яго веды. Сэнсам яго жыцця быў выраз "Каб усё было прыгожа", якому ён не здрадзіў да канца сваіх дзён.

Нарадзіўся Васіль у 1944 годзе ў вёсцы Хмелева Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці. З маленства ў хлапчука праявіліся здольнасці да малявання.



Пасля заканчэння ў 1962 годзе Хмелеўскай сярэдняй школы Васіль Кулік працаваў загадчыкам сельскага клуба ў вёсцы Сакі Жабінкаўскага раёна, потым настаўнікам малявання ў сваёй роднай школе. У 1969 годзе, скончыўшы Мінскі педагагічны інстытут імя А.М.Горкага, працаваў настаўнікам сярэдняй школы на Любаншчыне, загадчыкам аддзела культуры Любанскага райвыканкама, начальнікам аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў, а потым начальнікам упраўлення музеяў і аховы помнікаў Міністэрства культуры БССР. У 1982 годзе В.П.Кулік быў абраны намеснікам старшыні Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, адначасова з'яўляўся намеснікам рэдактара інфармацыйнага навукова-метадычнага бюлетэня таварыства "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі".

Дзе б ні працаваў Васіль Паўлавіч, ён праяўляў сябе высокакваліфікаваным, ініцыятыўным працаўніком, зрабіў пэўны ўнёсак ва ўдасканаленне сістэмы ўліку, аховы, выкарыстання і прапаганды гісторыка-культурнай спадчыны, у развіццё музейнай справы. Дзякуючы прынцыповай пазіцыі Васіля Куліка ў 1983 годзе пад грыфам Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры выйшла кніга А.Цітова "Гербы беларускіх гарадоў". Выданне стала гістарычнай з'явай у культурным жыцці рэспублікі і адразу ж разышлося сярод краязнаўцаў і гісторыкаў.

Шмат сіл В.Кулік аддаў арганізацыі і кантролю за ўзвядзеннем будынка таварыства, што ў Траецкім прадмесці.

Пад кіраўніцтвам В.Куліка значна пашырылася пошукавая работа ўсіх звёнаў таварыства. З удзелам фінансавых сродкаў таварыства ў Полацку быў адрэстаўраваны Сафійскі сабор, адкрыта зала арганнай і камернай музыкі.

Вёска Драмлёва ў Сцяпанкаўскім сельскім Савеце Жабінкаўскага раёна, спаленая фашыстамі ў Айчынную вайну, — не аднаўленая. Гэта трагедыя моцна мучыла Васіля Куліка як земляка і чалавека. І ён дапамог ажыццявіць задуму кіраўніцтва мясцовага калгаса "Усход" па ўвекавечванні памяці пакутнікаў вёскі Драмлёва. У верасні 1982 года тут быў адкрыты помнік.

Васіль Паўлавіч пастаянна клапаціўся пра ўдасканаленне выставачнай і музейнай справы, аховы і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры праз клопат аб творчай інтэлігенцыі: яго турбаваў лёс кожнага творцы — мастака, музейшчыка і гісторыка. Васіль Кулік не абмінаў майстэрні, музеі, тэатры, куды заходзіў звычайна пасля працы заўсёды з цёплай усмешкай, з добрым пажаданнем творцы і сябру і разумнымі разважаннямі пра пэўную сітуацыю жыццёвага часу. Ад сустрэч з Васілём Паўлавічам станавілася святлей на душы і лягчэй у жыцці.

Задум было шмат, але заўчасная смерць забрала яго на 42-м годзе жыцця. Памяць пра Васіля Паўлавіча Куліка засталася і жыве ў сэрцах яго родных, сяброў, усіх, хто ведаў, працаваў і сустракаўся з ім на жыццёвых пуцявінах.

## ЗАМЕСТ КРОПКІ




*Біў бацька сына не за тое,*
*што ў карты іграў,*
*а за тое, што адыгрываўся.*

Што нашае жыццё? Гульня. Сёння я дакладна зразумела, за што біў бацька сына, які гуляў у карты. Вядома жа, за азарт! Цяпер гуляюць прафесійна, і ў пэўных месцах. Напрыклад, у казіно. Апошняе ў сярэдняга былога саўка выклікае асацыяцыі з вірлівым Лас-Вегасам, дзе ў цывільных залях напалову кандыцыянаванае паветра ўперамешку з зялёным колерам грошай і такім жа колерам тканіны на сталах для гульні клубіцца ў паўзмроку. Цяпер жа, дзякуючы свежаму паветру капіталізму, плюралізму і дэмакратыі, не трэба лятаць у далёкі чужы горад, дзе пад "небам залатым" — Парадыз Фартуны з вадаспадамі, з гронкамі агнёў рэстаранаў і бараў на кожным паверсе. Хаця трэба адзначыць, што менавіта амерыканцы самыя асцярожныя і сквапныя партнёры. Адзін маскоўскі калега распаліў маю журналісцкую цікаўнасць фактамі са свайго вопыту гульні ў Монтэ-Карла. Ён адзначаў, што амерыканцы могуць спыніць гульню пры выйгрышы 50-100 даляраў і шчасця будзе — поўныя зорна-паласатыя сэрцы. Нашы — не! Яны добра ведаюць, што ў труне кішэняў няма.

Каб самой упэўніцца ў гэтай сучаснай аксіёме азарту, я, зусім згубіўшы страх, разам са знаёмымі міліцыянтамі Цэнтральнага РАУС трапіла ў самае першае казіно горада-героя Мінска. Залю для гульні гатэля "Юбілейны" пастаянныя кліенты на слэнгу картачнага бізнесу называюць "юлькай", а круп'е ўсіх казіно СНД — "круціламі". На маё першае пытанне да менеджэра, ці занеслі гэтае казіно у кнігу рэкордаў Гінеса як піянера бізнесу гульняў, ён недвухсэнсоўна адказаў, што калі гэта маё апошняе пытанне, то са мной спадобіцца паразмаўляць. Далей — ціішыня. Шчыра кажучы, я падрыхтавалася да гэтай сустрэчы на ўзроўні дылетанта-энцыклапедыста.

Казіно — гэта другая па велічыні зорка бізнесу, а па прыбытку — пасля наркабізнесу. Кардынал Джуліо Мазарыні яшчэ ў XVII стагоддзі для папаўнення казны Людовіка XIV даў дазвол на падобныя сучасныя гульні — хокка. Крыху пазней знакаміты Паскаль карыстаўся драўляным колам (рулеткай), каб адкрыць некалькі астралагічных законаў і назіраць за рухамі планет. Урэшце, сучасная рулетка нарадзілася на востраве туманнага Альбіёна ў канцы мінулага стагоддзя. Хаця кансерватыўная Англія адразу ж забараніла ў сваім каралеўстве азартныя гульні і рулетку таксама. На сённяшні дзень самай "рулетачнай" краінай прызнана Манака. У 1863 годзе да Карла III звярнуліся браты Блан. Яны паабяцалі два мільёны франкаў прыбытку штогод за дазвол мець залю для гульні ў карты. І не памыліліся. Рулетка і карты зрабілі сваю справу: праз некалькі год княства абагацілася, дзякуючы бясконцаму патоку турыстаў, а яго жыхары сталі вольнымі ад мыт і падаткаў. З чым і сёння можна павіншаваць суайчыннікаў братоў Блан.

Аднак, мая дасведчанасць менеджэру айчыннага казіно не была патрэбна. Ні на воднае маё пытанне ён не адказаў. Усё засталося камерцыйнай тайнай — ад колькасці кліентаў і да заробку круп'е. Пазней са мной разгаварыўся дваццаціпяцігадовы хлопец Аляксандр, які ходзіць сюды з дзён адкрыцця казіно. Ён сказаў, што на яго памяці самы вялікі пройгрыш — 8 тысяч даляраў (ведай нашых!), а самы вялікі выйгрыш — 2,5 тысячы даляраў у "Блэк-Джэк" (па нашаму "ачко"). Хоць мы і не здаем карты, але ёсць магчымасць імі карыстацца!

Да гадзіны ночы мяне апекавалі сябры-міліцыянты і новыя знаёмыя Аляксандр і К°. І што дзіўна, у казіно супрацоўнікі ўсміхаюцца ўсім і заўсёды, нават ноччу. Круп'е і не глядзіць на кліента, а ўсё адно ўсміхаецца. Дзяўчына, якая абносіць сталы "халяўнай" выпіўкай — усміхаецца. Такі закон казіно — частаваць кліентаў кавай і шампанскім на працягу вечара-ночы. Здаецца, і жыць бы тут застаўся. А попельніцы! Кліент не паспее прыбраць пальцы з фільтра, які пячэ руку, як хлапчук ужо тутака — мяняе попельніцу, як памперсы замежнаму дзіцяці. Усё гэта, зразумела, падгрэе публіку. Не, браткі, што ні кажыце, а іншаземцы добра ведаюць наш менталітэт і правільна зрабілі свае стаўкі — казіно ў славян будзе працаваць з даходам! Як кажуць, свіран згарыць, але ж і мышэй колькі лясне... Перад рулеткай усе роўныя — ад прэзідэнта да гандляркі. Класічная дэмакратыя! Элітная публіка добраахвотна развітваецца з лішнімі зялёнымі з выявай замежнага мужыка ў пінжаку.

Раптам менеджэр казіно прапанаваў мне выпрабаваць свой лёс у рулетцы. Але лёс не парламент, яго немагчыма выбіраць ці мяняць па некалькі разоў. Выдалі мне тры стосікі фішак аднолькавага колеру і адышлі, каб не напалохаць фартуну пачаткоўцу. Зрабіла я першую стаўку на колер. Пайшло! Яшчэ паставіла — зноў! Адчуваю, што мяне абдымае за плечы моц азартнай жарсці. Народ тым часам абступіў наш стол і жалобна маўчыць. Чутка, што журналістка ўпершыню села гуляць, абляцела залу і, зразумела, што цікавіла іх не мая персона, а тое, ці спраўдзіцца павер'е, што пачаткоўцам заўсёды шанцуе. Але ж не з маім шчасцем. Я прайграла ўсё, акрамя трох фішак, якія падаравала новаму знаёмаму Аляксандру. Каб не ён, то пасыпала б галаву попелам. Гэтыя фішкі "паднялі" нас у трыццаць пяць разоў. (Вось дык Сашка!)

Я развіталася з гаспадарамі гэтай установы, яны пажартавалі, маўляў, калі ў Амерыцы прайграюць, то лепшым кліентам нават і верталёт падаюць, і гатэль здымаюць... Я сціпла адмовілася ад верталёта і накіравалася да міліцэйскага "казла". Але ж вось дзе сапраўдныя картачныя няпісаныя законы! Аляксандр прапанаваў мне паспытаць шчасця ў іншым казіно на наш агульны выйгрыш. Выбар патрапіў на суседні гатэль "Планета". Па дарозе да "плана", я ўцяміла, што з круп'е па мянушцы Чубчык не гуляць. Бесперспектыўна. Абяцала сачыць за табло ці запісваць нумары і пачала адрозніваць "спліт" ад "карэ". Словам, усе мае "універсітэты" былі пройдзеныя за пятнаццаць хвілін глыбокай ноччу ў вуснай форме. Каля дзвярэй гатэля стаялі маўклівыя хлапчукі з фірмы "Сэк'юрыці". Маўклівасць у казіно — гэта ўвогуле сапраўдны густ. Маўклівасць іншамарак каля ўваходу таксама сюды падпадае. Маўклівасць майго сябра па інстытуту, які за дзве гадзіны прайграў некалькі тысяч даляраў, сеўшы на вугал гуляць на два сталы адначасова — таксама ў гэту касу. Маўклівасць югаслаўскіх менеджэраў казіно "Планета" — туды ж. Сталы, на якіх чамусьці быў колер "бардо" ад фірмы "Modern games", бадай, адзінае, што адрознівала гэтую залю ад папярэдняй. У астатнім усё тое ж — шампанскае, кава, дзяўчынка з доўгімі валасамі і нагамі ў тым жа эквіваленце, маленькае акенца касы па абмене валюты і фішак, манументы — назіральнікі, менеджэры... Змена варты — круп'е кожныя трыццаць хвілін мяняліся — нагадвала рытуал перад Таўэрам у Лондане. Гэта амаль самае прыгожае дзеянне ў казіно.

Дарэчы, як толькі я села гуляць, да мяне адразу нахінуліся двое хлапчукоў з фірмы "Сэк'юрыці" і запыталіся, разглядаючы маё рэдакцыйнае пасведчанне, ці ёсць у мяне зброя? Я шчыра адказала: няма. Яны ж адрэагавалі на мае словы як на жаночае какецтва — жарт. На іх разуменне, нашы службы канкурэнтныя. І нам у рэдакцыі павінны былі б адначасова даваць дыктафон, пасведчанне, зброю і страхавы поліс. (Разумна!)

Фартуна і хлапчукі пакінулі мяне адначасова. Я таленавіта прайграла ўсе фішкі, што мне падаравала казіно і мой новы знаёмец. Затое адчула ўсю вастрыню добраахвотнай рызыкі, праўда, за чужыя грошы, і для сябе зрабіла выснову: гуляць табе, небарака, у "падкіднога" ўсё жыццё.

**Жана ВАСАНСКАЯ**

**P.S.**

Мой сябар Сашка на развітанне дадаў: тых грошай, што мне ахвяравала казіно і якія я прайграла, мне б хапіла на выпуск прыватнай газеты "Гуляць дык гуляць".

**Ж.В.**

# ЭТЫКЕТ — НЕ РАСКОША

### *Парады маладому бізнесмэну*

Акрамя сваіх службовых абавязкаў, малады бізнесмэн павінен пазнаёміцца з метадамі і стылем работы фірмы. Аднак пры самай лепшай прафесійнай падрыхтоўцы нельга абысціся без адпаведных правілаў паводзінаў, ці этыкету. Напрыклад, вызначыць, ці варта вам мець далейшыя адносіны з чалавекам, можна за першыя чатыры хвіліны знаёмства. Таму, сустрэўшы новага чалавека, удзяліце яму сваю асабістую ўвагу: будзьце ўважлівыя, ветлівыя, дзелавітыя. Задайце пытанні, каб падтрымаць гутарку, праяўляйце зацікаўленасць, калі слухаеце суразмоўцу.

Не варта адразу звяртацца на "ты", нават калі ўсе астатнія называюць адзін аднаго менавіта так. Пакуль вы не асвоіліся, карыстайцеся афіцыйнай формай звароту.

Калі вы на фірме ўпершыню, супрацоўнікі могуць запрасіць вас разам паабедаць. У такіх умовах не адмаўляйцеся, але не навязвайцеся.

Калі вы бос, не падкрэслівайце гэтага на кожным кроку. Не загадвайце, лепей ветліва папрасіце. Сэнс адзін, а просьба значна больш эфектыўная. Памятайце, што людзі працуюць з вамі, а не на вас. Ім падабаецца, калі з імі абыходзяцца як з роўнымі, а не як з рабамі. Заўсёды трымайце слова, не забывайцеся пра свае абяцанні.

Пры неабходнасці некага пакрытыкаваць, рабіце гэта адзін на адзін, без сведкаў, пры гэтым пазбягайце раздражнёнага тону.

Сакратар. Сакратара наймаюць толькі дзеля службовых абавязкаў. Калі ў сакратара ёсць час займацца вашымі асабістымі справамі, — значыцца, ён вам не патрэбен. Калі ж вы просіце нешта зрабіць для сябе, памятайце, што ён робіць вам ласку і што гэта робіць вашыя адносіны менш афіцыйнымі. "Шляхетны" тон на фірме не да месца. Не варта ўскокваць пры ўваходзе сакратаркі, аднак не рабіце выгляд, што яна для вас — пустое месца. Не забывайцеся на словы: "калі ласка", "дзякуй", не лічыце, што яна павінна ўносіць крэслы ў ваш кабінет для вашага пасяджэння. Пры выпадку пацікаўцеся яе здароўем, настроем... Калі вы сыходзіце, заўсёды паведаміце, дзе вас адшукаць у выпадку чаго...скажыце, калі вернецеся.

Што вы павінны чакаць ад вашай сакратаркі?

Ветліва гаварыць па тэлефоне, ветліва звяртацца да наведнікаў, быць надзейным памочнікам у вашых справах: службовых і асабістых, умець захоўваць сакрэты, разумець з паўслова, калі вас пакінуць, без заўваг тыпу:" Вы б не маглі нас пакінуць"...

Сакратарка павінна ўмець паводзіць сябе ў дзелавым стылі. Гэта азначае: звяртацца да вас адпаведна абстаноўцы, апранацца адпаведна дзелавым абавязкам, курыць толькі тады, калі нікога няма ў кабінеце (лепей, канечне, не курыць), звесці да мінімуму асабістыя тэлефонныя размовы, спытаць вас, ці не патрэбна яна, калі адыходзіць, пачакаць, пакуль вы звернецеся да яе, не адрываць вас ад справы. Памятайце: зацікаўленасць у рабоце вашай сакратаркі цалкам залежыць ад вас. Сакратарка павінна пазбягаць выразаў тыпу:"Шчас", "Вы хто?", "Вам каго?", "А нашто ён вам?", "Ён заняты". Ужывайце абароты тыпу:"Чым магу дапамагчы вам?", "Прысядзьце на хвілінку", "Адну хвілінку, зараз я пазваню"...

А ўвогуле сакратарка павінна трымацца сціпла, гаварыць ціха, не гаварыць пра прысутнага ў трэцяй асобе тыпу: ён, яна...Нейкі імярэк.

Свецкае жыццё дзелавога чалавека. Часам даводзіцца спалучаць дзелавое жыццё са свецкім, таму вы павінны памятаць: усё, што вы робіце, можа абярнуцца супроць вас. Таму начальнік павінен помніць, што не варта рабіць.

Не варта прапаноўваць для вечарынкі свой дом ( не варта дэманстраваць свой лад жыцця).

Не "выступайце" на вечарынках, не затрымлівайцеся позна ( пакіньце вечарынку незаўважна), не піце шмат, назаўтра падзякуйце арганізатарам вечара.

У офісе часцяком збіраюць грошы на розныя калектыўныя патрэбы. Калі да вас падыходзіць малазнаёмая дзяўчына і просіць унесці грошы для нейкай Мэгі, якую вы нават не памятаеце, усё, што вы можаце, — гэта спытаць, па колькі скідвацца, даць грошы і забыцца пра іх.

Робячы падарунак на рабоце, памятайце пра этыкет і пра добрыя манеры: лепей за ўсё дарыць тое, што можна скарыстаць на рабоце, аднак не асабістыя рэчы. Падарункі павінны як мага менш быць звязаныя з асобай таго, каму дораць. Калі падарункі робіць фірма, падносіць іх кіраўнік. У той час як нават навагодні падарунак кіраўніку фірмы дарыць не прынята. Нават калядныя паштоўкі вышэйстаячаму ад падначаленых дасылаць не трэба. У віншавальных паштоўках пазбягайце "арыгінальных" і "дасціпных" выразаў, каб не абразіць рэлігійных ці іншых пачуццяў.

Некалькі парад для тых, хто гаворыць па тэлефоне.

Калі вам пазваніў незнаёмы, не пытайцеся: "хто гэта?" ці "хто яго пытаецца?", "гэта нумар такі-та?" Трэба спытаць: "магу я даведацца, хто гаворыць?", "гэта нумар 254768?"

Калі вы збіраецеся гаварыць доўга, спытайцеся, ці ёсць час у вашага субяседніка? Калі вы заняты, папрасіце дазволу перазваніць. Нетактоўна прымушаць чакаць, калі вы пазванілі самі. Заканчваць размову павінен той, хто пазваніў. Не трэба крычаць у трубку альбо мямліць у час размоў. Прадумайце, пра што вы будзеце гаварыць, калі не разлічваеце на асабістыя здольнасці імправізаваць.

Асноўныя правілы культуры зносін.

Хораша паводзіць — гэта паводзіць сябе сціпла. Старайцеся не звяртаць на сябе ўвагу прысутных.

Гаворачы з жанчынай, не называйце яе па імені, пакуль яна сама вам не прапануе гэта зрабіць, звяртайцеся да жанчыны са словамі: спадарыня, пані імярэк...

Будзьце асцярожныя з кампліментамі. Рабіце іх адзін на адзін. Бо калі вы гаворыце камплімент у прысутнасці іншай жанчыны, атрымліваецца, што тая не заслугоўвае пахвалы.

Не папраўляйце памылкі альбо акцэнт субяседніка.

Не ўжывайце ў гутарцы замежных слоў, гэта можна рабіць, калі вы вымаўляеце іншаземныя словы бездакорна і калі ваш субяседнік таксама ведае іх.

Не гаварыце "ну" альбо "што" замест "Выбачайце, я не пачуў", "Што вы сказалі?"

Пазбягайце слоў, якія нічога не азначаюць: "так сказаць", "усё такое", "і гэтак далей".

Выступаючы перад аўдыторыяй, гаварыце жыва, цікава і па сутнасці. Імкніцеся да гаворкавай мовы, кароткімі фразамі не гаварыце як па пісанаму, рабіце частыя паўзы. Не меней важна валодаць добрай артыкуляцыяй.

**З кнігі "Як сябе паводзіць".**
**Пераклад са славацкай**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
**выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Вольга ІПАТАВА**

Нам.галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдкалегія:
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Кампутарная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©

Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**